*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 14 (700) 13 КРАСАВІКА 2005 г.**

# “Наша слова” № 700

## Дарагія сябры “Нашага слова”!

Сёння мы паведамляем вынікі падпісной кампаніі на нашую газету на 2-гі квартал 2005 года. Нажаль, усе вобласці здалі свае пазіцыі, і толькі дзякуючы актыўнай працы сакратарыяту падпіска па гораду Менску і Менскай вобласці вырасла на 60 асобнікаў, што забяспечыла невялікі рост падпіскі па краіне.

| | Студзень | Красавік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в | 11 | 12 |
| Бяроза р.в. | 6 | 6 |
| Белаазёрск р.в | 3 | 3 |
| Бярэсце гор. | 18 | 16 |
| Ганцавічы р.в. | – | 1 |
| Драгічын р.в | – | 2 |
| Жабінка р.в. | 1 | 1 |
| Іванава р.в | – | 2 |
| Івацэвічы р. в. | 6 | 6 |
| Камянец р.в. | 22 | 3 |
| Кобрын гор. | – | 1 |
| Лунінец гор. | 1 | – |
| Ляхавічы р.в. | – | 1 |
| Маларыта р.в. | 3 | 2 |
| Пінск гор. | 9 | 9 |
| Пружаны р.в. | 6 | 5 |
| Столін р.в. | 1 | 2 |
| **Усяго:** | **87** | **73** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 2 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 34 | 25 |
| Віцебск РВПС | – | 2 |
| Верхнедзвінск р.в. | 9 | 9 |
| Глыбокае р.в. | 7 | 4 |
| Гарадок р.в. | 3 | 4 |
| Докшыцы р.в. | 2 | 2 |
| Дуброўня р.в. | – | 1 |
| Лёзна р.в. | – | 1 |
| Лепель р. в. | – | 1 |
| Міёры р.в. | 5 | 4 |
| Наваполацк гор. | 19 | 22 |
| Ворша гор. | 2 | 6 |
| Полацк гор. | 13 | 11 |
| Паставы р.в. | 3 | 3 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | – | 2 |
| Талочын р.в. | 2 | 1 |
| Ушачы р.в. | 3 | 4 |
| Чашнікі р.в. | 3 | 3 |
| Шаркоўшчына р.в. | 7 | 6 |
| Шуміліна р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **118** | **117** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 4 |
| Барысаў ггор. | 2 | 3 |
| Вілейка гор. | 5 | 3 |
| Валожын гор. | 6 | 7 |
| Дзяржынск р.в. | 3 | 3 |
| Жодзіна гор. | 6 | 5 |
| Клецк р.в. | 2 | 2 |
| Крупкі р.в. | 2 | 3 |
| Капыль р.в. | 1 | 1 |
| Любань р.в. | 6 | 5 |
| Менск гор. | 264 | 315 |
| Менск РВПС | 9 | 11 |
| Маладзечна гор. | 14 | 15 |
| Мядзель р.в. | 2 | 2 |
| Пухавічы РВПС | 7 | 7 |
| Нясвіж р.в. | 3 | 4 |
| Смалявічы р.в. | – | 4 |
| Слуцк гор. | 23 | 29 |
| Салігорск гор. | 3 | 3 |
| Ст. Дарогі р.в. | 2 | 2 |
| Стоўбцы р.в. | 4 | 3 |
| Узда р.в. | 3 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 6 | 4 |
| **Усяго:** | **378** | **438** |

| | Студзень | Красавік |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | – | 2 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 34 | 27 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | – | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 26 | 18 |
| Жлобін гор. | 6 | 5 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 4 | 2 |
| Лельчыца р.в. | – | 1 |
| Лоеў р.в. | – | 1 |
| Мазыр гор. | 7 | 3 |
| Акцябарскі р.в. | – | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыцца гор. | 1 | 1 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 6 | 7 |
| Хойнікі р.в. | 1 | 1 |
| Чачэрск р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **95** | **79** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставца | 6 | 6 |
| Ваўкавыск гор. | 11 | 10 |
| Воранава р.в. | 7 | 6 |
| Гародня гор. | 31 | 32 |
| Гародня РВПС | 9 | 10 |
| Дзятлва р.в. | 7 | 7 |
| Зэльва р.в. | 2 | 2 |
| Іўе р.в. | 5 | 5 |
| Карэлічы р.дв. | 4 | 4 |
| Масты р.в. | 10 | 10 |
| Наваградак гор. | 8 | 5 |
| Астравец р.в. | 7 | 8 |
| Ашмяны р.в. | 6 | 7 |
| Смаргонь гор. | 14 | 13 |
| Слонім гор. | 10 | 11 |
| Свіслач р.в. | 7 | 8 |
| Шчучын р.в. | 7 | 6 |
| Ліда | 12 | 11 |
| **Усяго:** | **163** | **161** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 5 | 6 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в. | 1 | 1 |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | – | 1 |
| Горкі гор. | 14 | 12 |
| Дрыбін р.в. | 1 | 1 |
| Кіраўск р.в. | 1 | 1 |
| Клічаў р.в. | 1 | 1 |
| Клімавічы р.в. | 2 | 3 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | 1 | 1 |
| Крычаў р.в. | 1 | 1 |
| Круглае р.в. | 2 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 1 |
| Магілёў гор. | 14 | 12 |
| Магілёў РВПС | - | - |
| Асіповічы гор. | 7 | 6 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | 1 | 2 |
| Чэрыкаў р.в. | 10 | 2 |
| Чавусы р.в. | 2 | 2 |
| Шклоў р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго** | **69** | **60** |
| **Усяго на краіне** | **910** | **928** |

## ВЯРХОЎНЫ СУД ПРЫЗНАЎ ЗАКОННАСЦЬ ПАПЯРЭДЖАННЯ, ВЫНЕСЕНАГА МІНЮСТАМ ТБМ

7 красавіка суддзя Вярхоўнага суда Беларусі Галіна Жукоўская адмовілася прызнаць незаконным і адмяніць пісьмовае папярэджанне рэспубліканскаму грамадскаму аб’яднанню “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”, вынесенае Міністэрствам юстыцыі 16 лютага гэтага года. Так скончыўся распачаты 5 красавіка разгляд скаргі ТБМ на дзеянні Мінюста.

Згаданае рашэнне суддзя матывавала адсутнасцю прэтэнзій да Міністэрства юстыцыі.

Свае дзеянні па вынясенні ТБМ папярэждання Мінюст патлумачыў тым, што лідская, слонімская і бешанковіцкая раённыя структуры ТБМ выкарыстоўвалі жылыя памяшканні для рэгістрацыі юрыдычных адрасоў і такім чынам парушылі палажэнні Жыллёвага кодэкса.

Выступаючы ў Вярхоўным судзе 7 красавіка на другім слуханні па скарзе, старшыня ТБМ Алег Трусаў назваў папярэджанне Мінюста “незаконным і абсалютна беспадстаўным”. Паводе яго слоў, арганізацыі ТБМ, да якіх Мінюст прад’явіў прэтэнзіі, былі ўзяты на ўлік мясцовымі органамі ўлады пасля прыняцця ў 1999 годзе Жыллёвага кодэкса на падставе ліста Мінюста ад 9 лютага 2000 года. У гэтым лісце, скіраваным ва ўпраўленні юстыцыі абласных і Мінскага гарадскога выканкамаў, гаварылася пра магчымасці рэгістрацыі арганізацыйных структур грамадскіх аб’яднанняў па месцы жыхарства іх членаў (у прыватным доме або кватэры).

“Дадзеная пазіцыя дзяржавы была пацверджана лістом Мінюста ад 13 траўня 2004 года”, — зазначыў А.Трусаў. Ён мяркуе, што пры адсутнасці доказаў аб парушэннях заканадаўства з боку ТБМ папярэджанне Мінюста з’яўляецца “юрыдычным нонсенсам”. Старшыня ТБМ заклікаў суддзю прызнаць незаконным і адмяніць пісьмовае папярэджанне аб’яднанню, а таксама вынесці прыватную пастанову аб незаконнасці дзеянняў Міністэрства юстыцыі.

Паводле слоў намесніка старшыні ТБМ Сяржука Кручкова, дагэтуль Мінюст не ўстанавіў адзіную форму дакументаў аб рэгістрацыі грамадскіх структур органамі мясцовай улады. Ён прад’явіў суду пасведчанне аб пастаноўцы на ўлік Жодзінскай гарадской арганізацыі ТБМ, у якім не ўказаны яе юрыдычны адрас.

Каментуючы вынікі судовага разбору, А.Трусаў зазначыў: “Створаны юрыдычны прэцэдэнт, пры якім Міністэрства юстыцыі не абмежавана законам у сваіх дзеяннях. У такой сітуацыі можна апеляваць толькі да Бога, які, як я спадзяюся, усё-такі разбярэцца ў ісціне і пакарае ўсіх, хто творыць беззаконнасць”.

“У гэтых умовах мы вымушаны будзем зняць з уліку арганізацыі ТБМ, якія зарэгістраваныя ў памяшканнях жылога фонду”, — сказаў А.Трусаў. Паводле яго слоў, адзіным станоўчым вынікам судовага працэсу з’яўляецца тое, што ўсе яго ўдзельнікі, уключаючы суддзю, пракурора і прадстаўніка Мінюста, выкарыстоўвалі на пасяджэнні дзяржаўную беларускую мову.

***М. ГАРАВЫ, БелаПАН.***

*(Іншыя матэрыялы суда чытайце на ст. 2-4.)*

## *”Чалавек надзвычайны, сапраўдны гарадзенец”.*

**Васіль Быкаў.**

## Аляксею Карпюку - 85



Аляксей Карпюк (14.04.1920 — 14.07.1992) нарадзіўся ў вёсцы Страшава (Беласточчына). Прымаў актыўны ўдзел у барацьбе за ўз’яднанне Беларусі. У час вайны з гітлераўцамі дапамагаў партызанам. Вясной 1943 года кінуты ў лагер смерці Штутгаф. Уцёк. Узначальваў партызанскі аддзел. Пасля дабраахвотна пайшоў у Савецкую Армію. Дайшоў да Берліна. Паранены. Узнагароджаны ўрадавымі баявымі ордэнамі і медалямі, высокай узнагародай Польшчы.

У 1949 годзе ён скончыў Гарадзенскі педагагічны інстытут, у 1961 – Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. У перыяд з 1949 па 1970 г. працаваў настаўнікам і журналістам. З 1965 па 1970 год і пазней – з 1978 быў сакратаром Гарадзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў. Сябра Саюза пісьменнікаў з 1953 года. У перыяд з 1977 па 1981 г. займаў пасаду дырэктара Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі ў Гародні.

Чалавек высокай прынцыповасці, моцнага характару. Пра сваю пазіцыю ён гаварыў адкрыта. У сярэдзіне 50-х гадоў XX-га стагоддзя малады настаўнік выступіў з лістом на адрас ЦК КПСС, выказваючы нязгоду з лозунгам “Першы хлеб дзяржаве!”. Быў выключаны з камуністычнай партыі.

Таленавіты празаік, раманіст, аўтар амаль аўтабіяграфічных твораў пра вайну. Аўтар звыш 20 празаічных кніг.

Вострыя публікацыі на тэму дня друкаваліся ў канцы 80-х — пачатку 1990-х г. (“Полымя”, “Неман”, “Гродзенская праўда”, “Глос з-над Немна”, “Чырвоная змена”, “Знамя юности”, “ЛіМ”, “Литературная газета”, ”Народная газета”, “Ніва” (Беласток). Цярпеў перservслед з боку ўлады, плявузганне на партыйных сходах, цкаванне “кішэнных” ветэранаў вайны. Дайшло да таго, што начамі “невядомыя” білі вокны ў кватэры. Аляксей Карпюк абараняў свае гонар і годнасць у судзе. Справу выйграў...

Яго імя ўспаміналася сярод асноўных прэтэндэнтаў на ганаровае званне “Чалавек Гарадзеншчыны XX-га стагоддзя”. Паводле апытанняў 1990 года, Аляксей Нічыпаравіч прызнаваўся адным з найбольш вядомых асобаў вобласці.

Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы (Англія) надаў А.Карпюку званне “Лепшы чалавек года” за 1992 г.





# Выступ намесніка старшыні ТБМ Сяржука Кручкова на паседжанні Вярхоўнага Суда Беларусі 7 красавіка 2005 г.

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 3.)*

Таму спроба Мінюста ўскласці адказнасць на ТБМ за быццам бы меўшых месца парушэнні заканадаўства на Раду ТБМ не вытрымлівае ніякай крытыкі і не грунтуецца на заканадаўстве Рэспублікі Беларусь. А калі Мінюст лічыць, што мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы ўлады падчас пастаноўкі парушылі жыл-лёвае заканадаўства краіны, то яны дзейнічалі на падставе ліста Міністэрства юстыцыі ад 09.02.2000 №06-12/1621 на адрас упраўленняў юстыцыі аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама, які вызначае магчымасць рэгістрацыі арганізацыйных структур грамадскіх аб'яднанняў па месцы жыхарства членаў гэтых аб'яднанняў (прыватны дом альбо кватэра). Высокі суд, як вам бачна, што віноўнікам як быццам бы меўшых месца парушэнняў жыллёвага заканадаўства з'яўляецца само Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, якое сваімі, на маю думку, некампетэнтнымі і супярэчлівымі дзеяннямі стварыла няпэўнае прававое поле. Пра гэта, дарэчы, засведчыла і "Прыватнае вызначэнне Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь" ад 9.06.2003 г. у якім сказана, што "судом установлены нарушения законодательства, допущенные Министерством юстиции". Адной з прычынаў закрыцця арганізацыі (справа якой разглядалася ў ВС) з'явілася тое, што Мінюст зарэгістраваў у верасні гэтае Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне ў шматкватэрным жылым доме. Вярхоўным судом было вызначана наступнае : "... Изложенное, по мнению суда свидетельствует о ненадлежащем отношении отдельных работников Министерства юстиции к своим должностным обязанностям в процессе регистрации (перерегистрации) общественных объединений и осуществления функций контроля за их деятельностью". Суд вызначыў: "... о принятых мерах сообщить Верховному Суду Республики Беларусь". Мне было б вельмі цікава паглядзець на той дакумент у якім Мінюст паведамляе ВС аб прынятых захадах. Можа ў тым дакуменце мы знойдзем адказы на нашыя пытанні і як трэба было рэгістравць аргструктуры ТБМ.

Звяртаю ўвагу Высокага суда і на тое, што ў Пярэчаннях да скаргі і ў лісце ад 29.03.2005 г. ад 06-11/426 незаконна патрабуе ад Рады ТБМ ліквідаваць пэўную колькасць аргструктур аб'яднання. Мінюст лічыць, што п. 3.2 Статута ТБМ, у якім акрэслена кампетэнцыя Рады, дазваляе Радзе прымаць рашэнні адносна ліквідацыі аргструктураў. Лічу, што патрабаванне Міністэрства юстыцыі не грунтуецца на заканадаўстве Рэспублікі Беларусь. Так артыкул 11 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" абгаворвае патрабаванні да Статутаў грамадскіх аб'яднанняў. "Уставы общественных объединений должны предусматривать: ... 9) <u>порядок реорганизации или ликвидации объединения и использования оставшегося имущества</u> ...". У адпаведнасці з заканадаўствам у Статуце ТБМ прадугледжаны артыкул 6 "Спыненне дзейнасці ТБМ". Паводле п. 6.1. "Спыненне дзейнасці ТБМ ажыццяўляецца шляхам рэарганізацыі ці ліквідацыі па рашэнні 2/3 дэлегатаў з'езда або судовых органаў Рэспублікі Беларусь у парадку, прадугледжаных законам". Пункт 6.3. Статута ТБМ гаворыць, што "Ліквідацыя ТБМ ажыццяўляецца згодна з пастановай з'езда або на падставе рашэння судовага органа Рэспублікі Беларусь, якое ўступіла ў законную сілу". Нагадваю, што п. 3.10. Статута ТБМ гаворыць, што мясцовыя арганізацыі ТБМ маюць тыя ж мэты і задачы, дзейнічаюць у адпаведнасці са Статутам ТБМ. Такім чынам ліквідацыя як аргструктур ТБМ, так і усёй арганізацыі павінна ажыццяўляцца ў адпаведнасці са Статутам ТБМ, або па рашэнні суда. Тым больш што артыкулам 21 Закона РБ "Аб грамадскіх аб'яднаннях" абгавораны парадак ліквідацыі грамадскіх аб'яднанняў "Общественные объединения могут быть ликвидированы: 1) по решению их высших органов; 2) **<u>по решению суда</u>** на основаниях, предусмотренных статьей 29 настоящего Закона."

Пакуль што вышэйшы орган ТБМ (з'езд) не прымаў рашэння аб ліквідацыі і ніводзін суд, таксама, не выносіў рашэнняў аб ліквідацыі як аргструктураў ТБМ так і арганізацыі ў цэлым. Дазвольце задаць пытанне, чаму Рада ТБМ павінна прымаць незаконнае рашэнне аб ліквідацыі сваіх аргструктураў і пазбаўляць такім чынам сваіх сяброў законнага права на свабоду аб'яднанняў гарантаванага артыкулам 36 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь? Як бачна патрабаванні Мінюста да Рады ТБМ ліквідаваць свае аргструктуры з'яўляецца, на маю думку, абсурдным і незаконным.

**Высновы:**

1. Сцверджанні прадстаўніка Мінюста аб тым, што падчас рэгістрацыі Бешанковіцкай і Слонімскай суполак былі дапушчаныя парушэнні Закона "Аб грамадскіх аб'яднання" і іншых заканадаўчых актаў прызнаць незаконнымі, паколькі згаданыя аргструктуры ТБМ не ўтваралі кіруючых органаў (Радаў) і таму не змяшчалі іх у жыллёвым фондзе Рэспублікі Беларусь. І адпаведна пастаноўка на ўлік распарадчымі органамі названых структураў не пярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь і не выклікае выкарыстанне прыдатных для пражывання жылых памяшканняў грамадзян не па прызначэнні. Жылыя памяшканні па адрасах г.п. Бешанковічы, вул. Маладзёжная, 9 кв. 21 і г. Слонім, вул. Брэсцкая, 103/3, кв. 61 выкарыстоўваліся і выкарыстоўваюцца для пражывання грамадзян.

2. Прызнаць незаконнымі патрабаванні Мінюста аб ліквідацыі некаторых аргструктур аб'яднання паколькі яны супярэчаць Статуту ТБМ, заканадаўчым і нарматыўным актам Рэспублікі Беларусь. Паколькі пастаноўка на ўлік аргструктур ТБМ ажыццяўлялася выканаўчымі і распарадчымі органамі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам і лістом Мінюста ад 09.02. 2000 №06-12/1621 на адрас упраўленняў юстыцыі аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама, які вызначае магчымасць рэгістрацыі арганізацыйных структур грамадскіх аб'яднанняў па месцы жыхарства членаў гэтых аб'яднанняў (прыватны дом альбо кватэра).

3. Прызнаць незаконным абвінавачванне Мінюста аб парушэнні Радай ТБМ артыкула 8 Жыллёвага кодэкса РБ, паколькі менавіта Міністэрства юстыцыі сваімі дзеяннямі стварыла няпэўную і неакрэсленую сітуацыю адносна размяшчэння юрыдычных адрасоў аргструктураў у жыллёвым фондзе Рэспублікі Беларусь. І паколькі ў лісце Мінюста ад 23.02.2004 г. №06-12/1128 "Аб юрыдычным адрасе" на імя Упраўленняў юстыцыі аблвыканкамаў (Мінгарвыканкама) міністэрства прызнае, што размяшчэнне юрыдычнага адрасу ў жылых памяшканнях не ўрэгулявана жыллёвым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. А папярэджанне нам вынесена менавіта за парушэнне жыллёвага заканадаўства. (Парадокс – заканадаўствам не ўрэгулявана, але мы парушылі тое, што не ўрэгулявана).

**Высокі суд, паважаная спадарыня пракурор!**

Прашу Вас:

1. Задаволіць скаргу Рады Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", прызнаць незаконным і адмяніць вынесенае Мінюстам папярэджанне.

2. На падставе артыкула 325 Грамадзянска-працэсупльнага кодэкса Рэспублікі Беларусь вынесці прыватнае адзначэнне ў адрас Міністэрства юстыцыі.

# РАШЭННЕ
## ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

7 красавіка 2005 г. Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь у складзе старшынствуючага суддзі Вярхоўнага Суда Жукоўскай Г.К.

пры сакратару Грынько Ж.М.

з удзелам пракурора Федарынчык Л.В.,

разглядзеўшы ў зале судовых пасяджэнняў грамадзянскую справу па скарзе Рады грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" на пісьмовае папярэджанне, вынесенае Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь,

**у с т а н а в і ў:**

Рада грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" у скарзе зазначыла, што Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь вынесла пісьмовае папярэджанне таварыству за быццам бы парушэнне арт. 8 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Спасылаючыся на тое, што ўсе арганізацыйныя структуры грамадскага аб'яднання зарэгістраваны ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, заяўнік прасіў адмяніць вынесенае 16 лютага 2005 года Міністэрствам юстыцыі папярэджанне.

У судовым пасяджэнні прадстаўнікі заяўніка Трусаў А.А., Анісім А. М. і Кручкоў С.М. падтрымалі скаргу і дадаткова паяснілі, што ў 2000 годзе Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь накіравала ўпраўленням юстыцыі аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама ліст, у якім дазволіла ставіць на ўлік арганізацыйныя структуры палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў па месцы жыхарства аднаго з іх членаў. Акрамя таго, Міністэрства юстыцыі парушыла тэрмін накіравання кіруючаму органу аб'яднання пісьмовага папярэджання.

Прадстаўнік Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь Харытон А.П. лічыць скаргу неабгрунтаванай, паколькі тры арганізацыйныя структуры грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (Лідская, Слонімская і Бешанковіцкая суполкі) выкарыстоўваюць жылыя памяшканні для юрыдычных адрасоў, што супярэчыць арт. 8 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Заслухаўшы тлумачэнні бакоў, даследаваўшы пісьмовыя доказы, заслухаўшы меркаванне пракурора Федарынчык Л.В., якая лічыць скаргу не падлягаючай задавальненню, суд прыходзіць да наступнага.

Артыкулам 28 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" прадугледжана, што ў выпадку ўчынення грамадскім аб'яднаннем дзеянняў, якія супярэчаць патрабаванням гэтага Закона, акрамя выпадкаў, калі парушэнне цягне за сабой ліквідацыю аб'яднання па рашэнню суда, парушэння іншых актаў заканадаўства, а таксама патрабаванняў статута, кіруючаму органу гэтага грамадскага аб'яднання выносіцца рэгіструючым органам пісьмовае папярэджанне.

У адпаведнасці з арт. 8 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь жылыя памяшканні прызначаюцца для пражывання грамадзян.

Выкарыстанне не па прызначэнню прыгодных для пражывання жылых памяшканняў не дапускаецца, акрамя выпадкаў, прадугледжаных гэтым Кодэксам.

Судом устаноўлена, што 16 лютага 2005 года Радзе грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" вынесена пісьмовае папярэджанне за парушэнне арт. 8 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Як вынікае са зместу папярэджання і тлумачэнняў прадстаўніка Міністэрства юстыцыі, падставай для вынясення папярэджання з'явіўся той факт, што шэраг арганізацыйных структур аб'яднання пастаўлены на ўлік (зарэгістраваны) па месцы жыхарства (прыватная кватэра) аднаго с яго членаў.

Гэтыя абставіны пацверджаны пасведчаннямі аб рэгістрацыі Слонімскай, Бешанковіцкай і Лідскай суполак (л. справы 21-23) і, па сутнасці, не аспрэчваліся прадстаўнікамі грамадскага аб'яднання ў судовым пасяджэнні.

Такім чынам, выкарыстанне арганізацыйнымі структурамі грамадскага аб'яднання ў якасці свайго юрыдычнага адраса кватэры ў шматкватэрным жылым доме супярэчыць дзеючаму жыллёваму заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

Довады скаргі аб тым, што заканадаўства пра дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў не ўтрымлівае забароны на размяшчэнне арганізацыйных структур грамадскіх аб'яднанняў у жылых памяшканнях, не могуць быць прыняты да ўвагі, бо згодна з артыкулам 4 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" грамадскія аб'яднанні ажыццяўляюць сваю дзейнасць не толькі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, дадзенным Законам, але і другімі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Што тычыцца спасылкі прадстаўнікоў заяўніка на пісьмо Міністэрства юстыцыі ад 9 лютага 2000 года, якое давала магчымасць пастаноўкі на ўлік арганізацыйных структр грамадскіх аб'яднанняў па месцы жыхарства аднаго з іх членаў, то гэта пісьмо не сведчыць аб неабгрунтаванасці пісьмовага папярэджання таварыству за парушэнне дзеючага заканадаўства. Паколькі абавязак па выкананню заканадаўства Законам Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" ускладзены на грамадскія аб'яднанні і не здымае з іх адказнасці за яго парушэнне.

Тым больш, што 23 лютага 2004 года Міністэрства юстыцыі накіравала ва ўпраўленні юстыцыі ліст № 06-12/1228 "Аб юрыдычных адрасах", у якім указала на недапушчальнасць размяшчэння кіруючых органаў грамадскіх аб'яднанняў і партый, а таксама іх арганізацыйных структур у жылых памяшканнях.

Аб гэтым былі паведамлены і грамадскія аб'яднанні лістом ад 18 кастрычніка 2004 г. Ім было прапанована прывесці юрыдычныя адрасы ў адпаведнасць з патрабаваннямі заканадаўства, прадставіўшы неабходныя для рэгістрацыі дакументы да 1 лютага 2005 г.

У вызначаны тэрмін запатрабаванні аб змяненні юрыдычных адрасоў заяўнікам не былі выкананы.

Пры такіх абставінах Міністэрства юстыцыі ў адпаведнасці з артыкулам 28 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" абгрунтавана вынесла Радзе грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" папярэджанне аб парушэнні арт. 8 Жыллёвага кодэкса Республікі Беларусь і падстаў для яго, папярэджання, адмены не маецца.

Парушэнне Міністэрствам юстыцыі тэрміну накіравання кіруючаму органу аб'яднання папярэджання таксама не з'яўляецца падставай для яго адмены. З улікам выкладзенага скарга заяўніка не падлягае задавальненню.

Кіруючыся арт. 302 ГПК Рэспублікі Беларусь суд

**в ы р а ш ы ў:**

Адмовіць Радзе грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" у задавальненні скаргі на вынесенае Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 16 лютага 2005 года пісьмовае папярэджанне за № 06-11/210.

Рашэнне ўступае ў законную сілу неадкладна пасля яго абвяшчэння, абскарджанню і апратэставанню ў касацыйным парадку не падлягае.

Старшынствуючы
**Суддзя Вярхоўнага Суда**
**Рэспублікі Беларусь – Г.К. Жукоўская**
Сапраўдна:
**Суддзя Вярхоўнага Суда (подпіс) – Г.К. Жукоўская.**

Зарыян Даленга-Хадакоўскі

# АБ СЛАВЯНСТВЕ ДА ХРЫСЦІЯНСТВА

*24 снежня 2004 года споўнілася 220 год, верагодна з міфічнага, дня нараджэння унікальнай легендарнай асобы пачынальніка народазнаўчай навукі пра ліцьвінаў-беларусаў, вядомага ў славістыцы пад прыгожым сімвалічным псеўданімам Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага, дзе Зарыян – ад зараніцы навуковага народазнаўства, а Хадакоўскі – фальклярыст-вандроўнік. Толькі цяпер нам удалося знайсці адкуль "Даленга" (з польскай літаральна "спрытны") – ад фамільнага герба любімага вучня і паслядоўніка вучо-нага Хрысціяна Лях-Шырмы з маёнтка Спорава на Бярозаўшчыне. Вось гэты герб:*



Будучы фальклярыст, гісторык, славяназнавец, археолаг, этнограф, дыялектолаг Хадакоўскі ў 1801 годзе скончыў Слуцкую павятовую навучальню. У 1801—04 гг. праходзіў юрыдычную практыку ў Наваградку. У 1805 здаў экзамены па юрыспрудэнцыі і атрымаў патэнт на правы кіравання маёмасцю. Працаваў аканомам у маёнтках, прыватным адвакатам у Менску. Арыштаваны царскімі ўладамі 24.3.1809 за выказаную ў прыватным лісце прыхільнасць да антыпрыгонніцкіх ідэй Напалеона. Пасля 7 месяцаў зняволення ў Петрапаўлаўскай цвердзі быў пазбаўлены шляхецтва і накіраваны салдатам у Омск. У 1811 у Бабруйску імітаваў утапленне, уцёк у Варшаву, уступіў у французскую армію. Менавіта пасля паражэння Напалеона мусіў хавацца пад псеўданімам.

Шырокую навуковую дзейнасць выдатны вучоны свайго часу, ураджэнец былога маёнтка Гайна на сённяшняй Лагойшчыне, а тады ў Барысаўскім павеце Адам Чарноцкі вёў з фінансавай дапамогай Расійскай акадэміі навук.

Адпаведна выбранаму мнагазначнаму псеўданіму, Хадакоўскі многа вандраваў, збіраў археаграфічныя матэрыялы, запісваў абрады, песні і дыялекты, пераважна на Палессі, даследаваў гарадзішчы каля Бярэсця, Турава, Гомеля, Магілёва, у Бабруйскім павеце, Старым сяле Віцебскага павета, Віцебску і Полацку. Амаль два стагоддзі назад, папярэдне даследаваўшы Карпацкі рэгіён, "ў палатнянай світцы, з заткнутай сенам бутэлечкай самагонкі ў правай кішэні на ўсякі выпадак, босым ў летні час" гэты пачынальнік славянскай фальклярыстыкі прайшоў прарадзіму славян Палессе ад Карпат да Гомеля і сваімі шматлікімі грунтоўнымі працамі заклаў асновы славянскай фальклярыстыкі.

Большасць сабраных вучоным матэрыялаў, значная частка якіх знаходзіцца ў Тарнопальскім краязнаўчым музеі на Украіне, не апублікавана, таму выключную каштоўнасць мае выдадзены ў 1974 годзе ў Кіеве зборнік "Українські народні пісні в записах Зоріана Доленги Ходаковського", дзе шырока прадстаўлены запісы на Беларускім Палессі (тут, напрыклад, упершыню апублікаваны запіс карагода з радзімічаўскага абрада Ваджэння і пахавання стралы "Як пушчу стралу дай па ўсём сялу").

Археолаг Хадакоўскі абгрунтаваў тэорыю ўзнікнення гарадзішчаў, як фальклярыст і мовавед распрацаваў прынцыпы збору фальклору і дыялектаў, акцэнтаваў увагу на вялікай каштоўнасці тапанімічных паданняў і назваў для гістарычных даследаванняў. Фальклорны архіў Хадакоўскага паралельна са зборам серба Вука Караджыча – першы і самы багаты збор фальклору славянскіх народаў па колькасці запісаў і велічыні ахопленай тэрыторыі, а праца вучонага – пачатак сістэматызаванага запісу з навуковай пашпартызацыяй і сінкрэтычным навуковым даследаваннем фальклору славянскіх народаў. Яна стала стала асновай для вызначэння прарадзімы славян, славянскага этнагенезу, праграмай для навуковых аб'ядчанняў Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы.

Найбольш актуальна і для нашага часу праца вучонага " Аб славянстве да хрысціянства" (1818), дзе упершыню паказана унікальнасць старажытнаславянскай абрадавай культуры і месца фальклору ў ёй у дахрысціянскі перыяд і распрацаваны кірункі комплексных даследаванняў гісторыі і культуры славянскіх народаў (далейшае развіццё яны атрымалі ў працах Хадакоўскага "Даследаванне адносна рускай гісторыі"(1819), "Праекце вучонага падарожжа па Расіі для вытлумачэння старажытнай славянскай гісторыі" (1820) і "Гістарычная сістэма Хадакоўскага" (1838).

Мы ўпершыню друкуем гэтую працу ў перакладзе першаадкрывальніцы асобы вучонага вядомай беларускай фальклярысткі Леаніды Малаш. Яна ласкава прадстаўлена галоўным рэдактарам выдавецтва шматтомнага "Беларускага кнігазбору" Кастусём Цвіркам для падрыхтоўкі юбілейнай Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Комплекснае даследаванне фальклору і этнакультуры Палесся" (гл. аб ёй: www.folkndl.bsu.by).

*Васіль Ліцьвінка.*

Зніклі для навуковых ведаў гісторыя, абрад і нашы звычаі эпохі многабожжа. Еўрапейская асвета не спрыяла цэламу перыяду, у якім святы крыж пачаў узносіцца сярод разлеглай і падзеленай Славяншчыны. Першыя пасланцы да нас з сягонняшняй верай былі далёкімі ад успрымання, каб захаваць тое-сёе для гісторыі і вякоў, і гэты непрыхільны запал у іх паслядоўнікаў дайшоў ледзь не да нашых часоў. У гэтым духу дзесяць або больш уладароў нашага племені па чарзе перакручвалі будову, якая была ўзведзена прыродным натхненнем, і побач з новымі правіламі неба не здолелі забяспечыць зямельнай уласнасці, якая праіснавала б да нас і была б саміх іх памяццю. Гэты выпадак з'яўляецца самым галоўным у Славяншчыне, бо ён ахапіў усю яе разлеглась, даваў права новым княствам, якія ствараліся, і штораз памнажаў іх. Звенні новай веры ўключалі нас, непадобных да рэшты народаў Еўропы. Славянін у мэтах набажэнства або па неабходнасці наведваў Рым або Царград і, блізка да сэрца прыняўшы ўзаемную нянавісць хрысціянскіх сталіц, запальваў паходню вечных войнаў на сваёй прасторы за тое, што не адной асвечанай галаве плаціў даніну. Бяда нам! Занадта доўга праіснавалі мы ў гэтай аблудзе. Можа не ўспомніў бы іх, калі б яны не мелі згубнага ўплыву на гэты перыяд нашай гісторыі і не былі б першым падкопам мілай нам заўсёды народнасці. Будучы час праясніць тую праўду, што ад ранняга аблівання нас вадой пачалі змывацца ўсе характэрныя асаблівасці, якія нас вызначаюць; аслабляў у многіх нашых краінах незалежны дух, і, фармуючыся на чужы ўзор, сталі мы нарэшце самі сабе чужымі.

Усім вядома, у чыіх руках было першае далато гісторыі Поўначы. Лёгка бачыць, што прызванне заўсёды штурхала іх рукой і рабіла шчарбіны ў вобразе радзімы. Таму не дзіва, што ў іх дахрысціянская эпоха, калі не абыйдзена цалкам і не запоўнена выдумкамі, выпукляе нам толькі грубыя звычаі, дзікунства і сляпату нашых бацькоў. З аднолькавай лёгкасцю ў іх гэты пераход да веры робіцца і ў Пазнані, Кіеве і Ноўгарадзе. Згодна з імі дастаткова было прыкладу і волі, якія панавалі, каб адзін дзень або год выканалі гэтае прызначэнне. Так разважаючы, гэтыя летапісцы, тым самым, не ведалі ўпартай славянскай душы, не ведалі гісторыі роднага і першабытнага народа, у якога спосаб кіравання і жыцця, звычаі і сама мова былі цесна спаяны з навукай аб багах.

Такім чынам, пераўтварэнне не магло быць раптоўным і нешчаслівым і, па-сутнасці, не было. Ад Кіева на чатыры гады спазніўся Вялікі Ноўгарад, на 100 гадоў – Растоў, яшчэ больш у часе Шчэцін - у прыняцці новай веры. Не прыводзячы нашых доказаў, успомнім, што гаворыць Нарушэвіч пасля 70 гадоў новай веры з нагоды праследавання язычнікаў пра жахлівасці ў палякаў, якія замоўчваліся хранікёрамі. І нарэшце, жрацы з многімі багамі схаваліся пасярод глухой Літвы ў невядомай дагэтуль краіне і ў зручны момант да помсты ўзнялі меч на польскія і рускія сядзібы. Ятвязь пры вытоках Нарвы – як яна надакучала аднаму і другому з сабратцяў? А што піша Нестар пра сучасных радзімічаў і вяцічаў, а жыццеапісанне святога Войцеха выказвае аб чэхах і жыцці Св. Бэна, біскупа Місненскага, а што тварылася на востраве ранюўцаў? Усё паказвае, што чалавек, які жыве сярод сваіх суродзічаў, ніколі не змяняе сябе, ніколі адразу не пазбаўляецца ад перадузятай думкі і дурных звычаяў, якія доўга яму спадарожнічалі, бо нялёгка паўстаць супраць самога сябе, змяніць спосаб жыцця, здумення, занядбаць усё, што яму міла, а перадусім надаць іншы паварот звычнай роднай мове, шанаванню разнастайных боствай і поўнай іх метафарычнасці, прыказак і прыроджаных устойлівых формул, якія складалі яго абрадавыя песні, прытчы, гутарковую мову і заўсёды дыхалі яго верай.

У забытых часах, даўно праслаўленых і сучасных, наш народ займае сваё месца. *Не сабраўся ён з выгнаннікаў, ні з рэшткаў разбураных дзяржаў. Заўсёды быў народам спрадвечным, аўтэнтычным, аднамоўным:* **І невядомыя яшчэ час і прычыны, па якіх ён пакінуў суседства з Індыяй, як доўга заседзеўся ў гэтай вялікай дарозе, пакуль прыйшоў у Еўропу і заняў палову яе з боку Азіі.** З'яўляецца пэўным толькі тое, што пасля таго, як асеў у новым месцы, займаў усе наваколіцы задунайскія аж да падножжа Балкан над Адрыятыкай, за Лабай і ўсю паміж імі прастору, а таксама поўнач з боку сцяны шведаў, якой кіравалі вялікія каганы да перасялення сталіцы ў Кіеў.

У выніку такой перамены на зямлі адбыліся некаторыя змены ў азначэнні асноў свяціл неба, якія ўшаноўваліся. Многія метафары натуральных істот пашырыліся да пазнаных на поўначы, і, падзяліўшы ўсю яе прастору на аднолькавыя ***ста***, падлягалі адным і тым жа ўставам, абрадам і звычаям. У гэтую эпоху ўсюды відаць начальнікаў з харугвай, якая стаяла на чале міру, вайны і святых абрадаў. Спалучэнне ў адной асобе такой разнастайнай улады над шматлікім народам давала столькі спосабаў рашэння і выканання ўсяго, што славяне ў такім становішчы і кіраваныя прыроджанай рукой шаноўнага, не маглі быць ні народам дзейсным, ні ўсыпленым. Вайна была для пашырэння існавання, а час міру – ловаў, земляробства, пэўных рамёстваў, абрадаў, спалучаных з вялікімі гульнямі і бяседай, якія былі іх усеагульнай забавай, вартай увагі і заняткам для абодвух палоў.

У помніках гэтых вякоў часта трапляюцца словы: *ралля, плуг, саха, каваль, каса, сталяр, цесля, тку, даўблю, долата*, нават *пісар* і *маляр*. Усё гэта было патрэбным і ўжытным, набывала сваю вагу і перанесла ў пазнейшыя вякі высокую, але ўжо метафарычную пахвальбу*.

Нідзе не відаць следу, каб перад нашай эпохай паліроўкі на поўначы былі заўважаны падданыя. Не маглі яны быць і ў час пераходу з Азіі ў Еўропу, і адсюль у другой частцы свету не відаць, што значыць працаваць на вячыстага пана, які ў вачах свайго манарха роўны яму.

Уласцівыя ад прыроды славянам прастата, вясёласць, ветлівасць і шчырасць выразна праяўляліся нават у вачах непрыяцеляў, і гэта сведчанне набылі. Мужнасць, міласць і гэтая ўзорная гасціннасць, якія служылі старым саксонам на здзіўленне і пачуццё глыбокай пашаны, былі боствамі ўсёй нашай зямлі, якія ў аднолькавай ступені паважаліся і шчодрымі дарамі надзяляліся.

Калі будзем менш чакаць ад вешчых замежных пісьменнікаў, менш ім даваць, а пачнём самі на ўласнай прасторы, у гняздзе нашых айцоў шукаць аб усім звестак, магчыма, знойдзем больш, чым дагэтуль дзе-небудзь пісана. Угледземся толькі ў нашу зямлю. Магчыма, славяне пакінулі яе як самую трывалую кнігу, можа, яе заклялі, каб ніколі сама спадчына нашчадкаў не выходзіла, і з гэтай мэтай заваражылі тагачасным спосабам, каб магла служыць сведчаннем адвечнай уласнасці найпазнейшым унукам. Не смеем мы пярэчыць нашым заснавальнікам клапатлівай прадбачлівасці аб захаванні такой памяці, бо хто з людам прайшоў прастору паміж Індам і Балтыкай, той, відаць, набыў шмат досведу і ўважлівасці на будучае і мог быць як Майсей другім заканадаўцам свайго племені.





Зарыян Даленга-Хадакоўскі

# Аб славянстве да хрысціянства

Такім чынам, пазнаёмімся з нашай зямлёй, падлічым яе ўсе найменні або ўрочышчы, будзем бачыць, што, нягледзячы на дзевяць вякоў, не ўлічваючы столькіх ваенных знішчэнняў, акрамя невядомасці і дарэмнага самахвальства ў адмене старых назваў, аднак, захаваліся і дайшлі да нас імёны багоў, якім належыла пакланяцца, імёны яе віноўнікаў і той зямной істоты, якая ў прасторы часу зарэкамендавалася вялікім дабром і злом і на славу роду людскога і нашай мовы была названа чолам вякоў**.

На гэтай жа зямлі мы будзем чытаць словы ўсіх звяроў і птушак, пакінутых як у Індыі, так і ў тутэйшым клімаце пазнаных, назвы ўсіх дрэў, лясных і пладовых, зёлак, якія вабяць прыемным пахам, і кветак, прыгодных для ўжываня, не ў меншай ступені і тых, што да лекаў і ўяўных чараў маглі служыць; азначэнне ўсіх вядомых у той час каштоўных металаў, назвы войнаў з усёй іх у тую пару зброяй, а таксама міру, які праходзіў доўгі час на сваім лоне забаў і працы; урочышча мораў з усімі падзеламі вады і караблёў, якія на ёй выкарыстоўваліся, усе паветраныя змены, пэўныя знакавыя лічбы або прысвечаныя багам, словы, якія абазначаюць супрацьлегласці, якія толькі чалавечае ўяўленне можа сабе ўявіць, усе прадметы злыя і добрыя, усе чэлесы, якія складаюць сукупнасць жывога цела, усе іх дзеянні, усе разумовыя здольнасці, усе назвы, агульныя і асобныя. Нарэшце, мысленне, памяць і слова як спружына і мэта гэтага вобраза, карацей кажучы, цэлая энцыклапедыя, сказаў бы, цэлы наш слоўнік у простым і пераносным значэнні, разгорнуты на нашай зямлі адзінакавым або складаным спосабам, дзелячы стары ста яе ў пэўным парадку. Няма і фута зямлі ў старой Славяншчыне, каб не належыла да гэтага слоўнага раду. У роўнай меры ахоплівае ён аседлыя і пустыя землі, карысныя і дзікія, узвышаныя і раўнінныя, ашчаціненыя горы, так і даліны і непераходныя балоты, чыстыя палі, як і дрымучыя лясы – , словам, цэлая паверхня зямлі была сталіцай нашых багоў і адной табліцай нашай веры.

Хто здолее на такой прасторы, амаль на кожнай квадратнай мілі палічыць былыя агароды, якія называліся градзіскамі і гарадзішчамі, навокал абнесеныя валам і блізкія да іх лысыя, або ясныя, горы, якія звычайна панавалі над гэтай мясцовасцю і звычайна ўзносіліся пры схілах і водах? На многіх месцах пры недахопе зямнога ўзвышша, на гладкай раўніне, сярод нізін і балот Палесся, аднак у больш падыходзячым месцы тое ж самае ўрочышча захоўваюць. Хто чуў, што Шчыгельскі*** пра яго гаварыў, хто прыпомніць агульнавядомае паданне пра ведзьмаў і чараўніц, якія кожны чацвер у час маладзіка наведваюць лысую гару, хто чуў пра кіеўскую гару, той здзіўляцца не будзе мноству памянёных назваў. Вялікая працягласць славянскай зямлі не дазваляла нашым айцам спыніцца толькі на дзесяці дасягненнях (набытках), дазволенных сумленнымі пісьменнікамі, зразумела, па гэтай прычыне, у залежнасці ад колькасці насельніцтва, вызначаюць Старыя ста і, змяшчаючы ў іх сто зямных назваў, выбіралі сярод іх найбольш віднае месца для лысай гары і святога агарода або да тых, якія стасавалі закругленню рэшты належачых назваў.

Мая праца яшчэ не завершана. Адкрыццё кожнай сістэмы не можа быць падцверджана ва ўсёй паўнаце, і цяжка на слабых крыллях пераляцець аддаленыя вякі і хутка пранікнуць у іх таямніцы. Толькі час і напружаная праца пасля ўважлівага перагляду многіх адлеглых аколіц могуць прынесці тлумачэнне, якім спосабам адно чуццё або чыя воля па такой прасторы ўмелі аснаваць тканіну паўсюды да сабе падобную або дадаць да яе тую разнастайнасць, якая праз пэўную адлегласць як бы зусім перанесеная паўтараецца і аднаўляецца.

Ходзячы ўсюды на фоне старажытнай навукі, на паваротах славянскага праўлення, колькі можна напаткаць Ноўгарадаў такіх даўніх, як і Стараградаў, Кіеваў, Кракаваў, Гнезн, Москваў, Крушвіц, Пазнаняў, Будзінаў, Пшэмыслаў, Белагорадаў, Варшаў, якія спалу-чаны з тымі ж самымі або адназначнымі імёнамі. Ко-лькі ж адкрываецца набыцця і памылак у нашых апісаннях, якія з назваў паселішчаў або краёў столькі вывелі заснавальнікаў, якія не існавалі.

Абапіраючыся на такую шырокую і паўсюдна для мяне існую сістэму нашай пасівелай старэйшыны, гляджу спакойна, як у маіх вачах знікаюць роі прывабных мар, якія, маючы на ўвазе нейкую скрытную асобу, цьму герояў з назваў многіх асад намагаліся стварыць у чэшскіх кроніках. Можна сказаць, што ніводзін з сучасных і паліраваных не падумаў аб такой сістэме назваў зямлі, ніхто пры дапамозе падобнага слоўніка не гарантаваў сабе вечна існай памяці. Гэта не літанія ўсіх святых у іспанскай Амерыцы і на астравах, якая без ладу перамешана. Славянскі парадак арыгінальны, уласцівы толькі нашым заканадаўцам і продкам, што праз столькі вякоў у тысячах месцах зрабілі і захавалі. У гэтым была іх агульнасць, еднасць; адсюль усім належная павага, адсюль, хачу гаварыць, усе пакрыліся вянцом і назвай Славы.

Часта ўглядаючыся ў гэты вобраз, столькі разоў адчуваў унутраную павагу да сваіх прадзедаў, ушанаванне іх вялікай мыслі і заўсёды знаходзіў у сябе жаданне далейшага распазнання і ў меру магчымасцяў заканчэння гэтага вобраза.

Час сказаць што-небудзь пра песні славянскага люду. У першабытнага народа, які налічвае больш дзесятка вякоў на гэтай зямлі, якіясьці песні павінны быць. Пры недахопу пісьменнікаў або тагачасных сведчанняў яны здольны нам многа рэчаў адкрыць. Аднак, хто не накідаў сабе пэўных контураў, не прыгатаваў пэўных пытанняў, а яшчэ з прычыны шырокасці славянскай зямлі не мае запасу адвагі, вытрымкі і ведання некалькіх дыялектаў, той дарэмна будзе чакаць песень; самі яны берагу не прыплывуць і не наб'юцца. Трэба пайсці і схіліцца пад сялянскую страху ў розных аддаленых краінах, трэба спяшацца на яго бяседы, забавы і розныя прыгоды. Там у дыме, які ўзносіцца над галовамі, яшчэ выконваюцца старыя абрады, напяваюцца даўнія спевы і сярод скокаў прастаты адклікаюцца імёны забытых багоў. У гэтым горкім змроку можна заўважыць тры месяцы, якія свецяцца, тры зары дзявочыя, сем зорак мядзведзіцы. Так, зара Лялёва набліжаецца да маладога месяца, што прадказвае каханне маладажонаў і вяселле; там зара, агароджаная месяцам або пакрытая завойкай, тлумачыць шлюбную прысягу. Дагэтуль яшчэ тры ракі цякуць пад сені каханкаў, несучы святую ваду для каравая і калачоў. Да гэтай пары ў падольскіх напевах сустракаюцца варожбы на тых жа рэках, якія ўспамінаюць візантыйскія хронікі. Яшчэ ціхі Дунай, як той Ганг, поўны ачаравання, міласці і шчасця, з'яўляецца святой вадой, які на сваёй паверхні нясе чарвенны кораб з вясельным дастаткам. Яшчэ едуць у Львоў, каб пазалаціць стоўп. Дзяўчына, якая без боязні стаіць паміж двума львамі, аддае руку юнаку. Страусавы пер'і і пававыя хвасты аздабляюць вянкі і галовы павенчаных. Чэрвец, змешаны з малінай, з'яўляецца хвалой захаванай цнатлівасці. Русая каса пад Кіевам, а залатая каса ў Кракаве – самыя распаўсюджаныя. Алені, рысі, лебедзі і сокалы яшчэ не забыліся прыносіць закаханым вянкі і пярсцёнкі. Сірацe, якая збіраецца да шлюбу, спяваюць поўную пнёў дуброву без зелені. Яшчэ масты сцелюцца з трыснягу, калі дзеці павінны ўпасці да ног бацькоў, а другія, якія ўсланы пярсцёнкамі і перламі, ляжаць па дарозе каханых.

Наогул, гаворачы аб гэтых абрадавых спевах, сабраных у невялікай колькасці над Дняпром, Богам, Бугам, Санам і верхняй Віслай, усе яны павяваюць мілай журбой, прастатой, поўнай метафарычнасці і старажытных вобразаў. Неабходна прызнаць, што сялянскі люд, так даўно пазбаўлены свабоды, калі мог яшчэ захаваць падобныя напевы, то, відаць, яны ў эпоху свайго панавання на райскіх дварах і агародах, у гаях, на гарах і палях, асвечаных пал вокам князёў і ксяндзоў, каралёў, жрацоў, паноў і абрадавых стараст у час сабораў абодвага полу, былі непараўнальна больш знакамітымі. На жаль, наша зямля не была застрахавана морам з трох бакоў, каб, нягледзячы на вякі, захаваць столькі, як Шатландыя.

Аднак, чаго нямала трэба шкадаваць, дык гэта тое, што ў Чэхіі пры Карлу IV, а ў Польшы ў эпоху Жыгімонтаў, якія былі прыхільнікамі навук і айчыннай мовы, у век не так моцна збяднелых сялянскіх двароў, не падумалі аб поўным зборы песень. Дзіўна, што Ян Каханоўскі які багата прыгожай прастаты з-пад вясковай страхі, пераносячы ў свае вершы, не трапіў на падобную думку; яна тут жа за ім стаяла. Яна і ў Жыгімонта Аўгуста атрымала б шчодрую падтрымку і сталася б годным падарункам таго веку. Дзякуючы гэтаму быў бы з'эканомлены для нас час і больш цяжкая праца. І не было б прычыны наракаць на сандармірскага каноніка Марціна з Ужандова, архімандрыта Кіевапячорскага Гізеля, на дружыну Лаёлі і на незлічоны полк фанатыкў, якія з вялікім запалам таптаці ўсё тое, што сёння з'яўляецца прадметам нашай цікавасці. Поруч з гэтымі правіннасцямі з захаду аддаём мімавольную пахвалу рускаму духавенству. Грэчаскія і ўніяцкія (як мы называлі) папы былі братамі свайго народа, маліліся Богу на славянскай мове, вольныя ад высакамернасці і сварак сярод жыхароў сваімі рэформамі, мелі больш паблажлівасці і ласкавасці з гэтага боку. Вынік гэта засведчыў: рускія ваколіцы захавалі непараўнальна больш старых песень і мяне навучылі.

На паўночнай Русі ў канцы XVIII ст. сабраны і надрукаваны песні. Выдавец хваліць іх працяглую аднастайнасць па ўсіх акругах, але паэтычную перавагу надае маларускім, г. зн. спевам паўднёвай Русі. Згаджаюся з гэтым па ўласным перакананні, пасля таго, як праз Днепр крыху заглянуў у Палтаўскую акругу. Аднак, трэба сказаць праўду, што ў гэтым 12-кніжным зборы не відаць сталай мэты. Больш за ўсё стараліся перадаць гучныя ноты або панурыя "калінушкі", чым саму рэч; займаліся гэтым невядомыя асобы, і не было зроблена ніякага выбару. Адносна сілезскіх, чэшскіх, мараўскіх і вянгерска-славянскіх песень, яшчэ не знаючы іх, нічога не магу сказаць. Аднак стараюся.

У даследаваннях нашай старажытнасці выяўляецца яшчэ больш своеасаблівая акалічнасць. Калі я яе тут назаву, ні адзін будзе ахоплены сумненнем і нават гатоў будзе пасмяяцца. Шчыра прызнаюся, што сам доўгі час знаходзіўся ў сумненні. Па сутнасці, як можна пагадзіцца, каб адзнакі шляхецкай гордасці, гэты помнік уяўных аповесцяў для нашых радапісцаў, гэта бяздонная крыніца панегірыкаў для айцоў езуітаў, асуджаных у сённяшняй асвеце на забыццё, каб, кажа, гербы нашы маглі мець старажытнае і пэўнае значэнне. Аднак, адкінем у бок усякія прадузятасці пра гэтыя знакі. Яны ў гэтым не вінаваты, што іх стараліся не разумець і зацямнілі казкамі.

(Заканчэнне на ст. 8.)

* ***Мікалай Рэй з Наговіц*** *у сваіх вершах, хвалячы паноў Чорных Паўлаў за розум, дабрачыннасць, мужнасць, узорныя паводзіны, якія былі ўласцівыя ўсяму іх роду, у дадатак да гэтых пахвалаў па-старасвецкаму так заканчвае:*

*"А за іх звычаямі, за іх справамі, менавіта, кожны мог бы іх зваць канякоўкамі"*

*У рускіх святочных спевах кавальчыкі і каваленкі куюць коней пану вясельнаму старасце, якому сваненка або сваха дае залатыя і срэбныя падковы з такімі ж ухналямі. Вось і прычына, чаму ў нас столькі гербаў, якія напоўнены падковамі. Заўсёды яны азначаюць добрага юнака; тое ж самае ў многіх месцах гаворыць і Нясецкі.*

*Мужнасць, трываласць і спрытнасць у вядзенні вайны доўга параўноўваліся ў нас з натурай ваўка. Памяць аб гэтым захавалася ў песні пра паход на палаўцаў северскага князя Ігара. І Нясецкі ў "Koronie Polskiej" (t. I-IV, Lwyw, 1728-1743) змясціў некалькі падобных прыкладаў: "Эліязар, або на Русі звычайнай мовай Оліазар (Елізар), сляпы на адно вока, аднак вялікі ваяўнік, які, не даючы ніякай пра сябе весткі, напаў на татар і нанёс удар; таму яго, ўжо сляпога і глухога, называлі ваўчком (Т. II, с. 424, т. III, с. 453); "воўк мазавецкі, чалавек значны" (т. III, с. 234); "продак лугаўскі", названы "Вялікім", які мужна ваяваў пад кіраўніцтвам Лешкі Чорнага з Літвой і яцвягамі, і ва ўзнагароду за заслугі атрымаў вёску Лугі (т. III, с. 184); Ян з Шчалец герба Гжымала, арцыбіскуп гнезненскі, вялікі муж, паважаны Казімерам Вялікім, выканаўца яго апошняй волі, быў названы "Сухім Ваўком" (т. II, с. 335). Была ў нас прыказка: "Воўк яму за вухам вые", таксама: "Бегае быццам з воўчай скурай па калядзе". Тысяча метафар было ў нашай мове, яна ўзбагачалася веданнем і вобразамі прыроды, якія служылі нашым продкам вялікай кнігай. Адхіліўшыся ад іх далёка, пра ўсё забыліся і ўсяго пазбавіліся. Дваццаць гадоў належыла змагацца нашым, каб вярнуць страчаную айчыну; магчыма, не меншых спатрэбіцца нам намаганняў, каб вярнуць народнасць у нашай мове. Як прагоркла чужая слодыч, ужываная праз меру. Адчуваецца туга па простых і родных кармах. Збяром іх старанна, за час, віноўнік усяго, магчыма, выдасць нам новага Баяна, які ад выгладжанай сёння мовы, надаючы старажытныя вобразы і словы, стане стваральнікам народнай арыгінальнасці.*

*** Для нас было міла паказаць адначасова гэты трыумф славянскай мовы, калі б гэта справа не заключалася ў агульным для яе правіле складання і множання слоў. Так усё пайшло на невядомасць, што, жадаючы растлумачыць адну рэч, трэба закранаць усю так званую махіну. У гэтым можна пераканацца і са слоўніка П. Ліндэ пад словамі: чола, век і чалавек. У знойдзеным вельмі старажытным рукапісу аповесці аб Мсціславе І Уладзіміравічу, слаўным князю рускім, бачым вялікага пасадніка Гастамысла Бурывоіча. "Умомъ своимъ онъ веки обнималъ". Гэты выраз даволі позні, бо з XII ст., аднак, разам з тым які высокім з'яўляецца, як нагадвае заканадаўцаў славянскай мовы? Трэба быць чужым, не належыць да нашага племені і быць там пазбаўленым усякіх ведаў у гэтай галіне, каб як Rulhiere, слаба ўхапіўшыся ў царкоўнае слова раб (якое абазначае па-славянску служэбнік, а па-руску – нявольнік), мог разумець, што ў гэтым краі чалавек і нявольнік называюцца аднолькава. Калі б сказаў, што дзеці: рабяты часта называюцца ад бацькоў, было б праўдай і сведчаннем натуральнага вяршынства бацькоў і пакорнасці ім дзяцей, якія пры дапамозе гэтага слова абазначаюць "падданасць без межаў".*

**** У кніжцы, хоць пазней пісанай: Aquila Polono-Benedictina.../ Kraków, 1663, s. 119 і наст. / і ў мясцовай легендзе: Krzyż Swięty na świętney góre Swiętokrzyskiej, łysiec nazwaney... Кс. Марцінам Кваткевічам... у Кракаве 1690.*

Зарыян Даленга-Хадакоўскі

# АБ СЛАВЯНСТВЕ ДА ХРЫСЦІЯНСТВА

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 6-7.)*

Нашы геральдычныя зборы з'яўляюцца вынікам прыватнага намагання, а не афіцыйнай справай. У апошнім зборы Пятра Малахоўскага прадстаўлена каля 10 000 сем'яў, а ўсіх гербаў, у тым ліку іх разнавіднасцяў, якія змешчаны там жа, будзе каля тысячы. Якая ж гэта лічба? Ці магчыма аднаму чалавеку ахапіць і вызначыць пачатак кожнага і прычыну невыдуманай высакароднасці? У гэтых кніжках, адпаведна довадам, якія каму падабалася напісаць для інфармацыі аўтара альбо з kwerendy па дзяржаўных актах, якія не выражаюць пачатку старажытнага шляхецтва, і мы такіх даўных папяровых збораў не маем. Зыходзячы з таго, што сам Нясецкі ў канцы 4-га тома ў пратэсце выказвае аб гэтай старажытнасці шляхты і гербаў аб іх паходжані з крыві ўсходніх і заходніх цароў, якія ўзніклі ад арагонскіх каралёў і сіцылійскіх князёў, ад валадароў замкаў, а нават ад Алімпа і Акіяна, - усё гэта не заслугоўвае якой-небудзь увагі. Тым не менш, застарэлай хваробай з'яўляецца ў нас шукаць славы, гордасці ў замежных рэчах, і таму вельмі частыя ў нас родаводы з Брытаніі, Даніі, Італіі, Францыі і іншых краін. У гэтай чужаземшчыне не мог быць ужо Слуп, толькі Калона, Крук апрануўся у corwina, мядзведзь, гэты бедны муж за пакорнасць сваёй жонцы ператвараецца часам ва Урсына. Вата знаёміўся са Старым Запаветам і прысвоіў Самсона. Белая гусь, пачуўшы пра славу капіталійскую, паднялася да Paparony, а ясны сокал, гэта некалі знакамітая птушка, якая дала столькі хлеба сакальнічым, будучы заўсёды адзнакай дзелавога молойца, зніжаны да Слепавароны. Гэты піша, што Барычка прыбыў з Панонii ў Венгрыю, потым у Польшчу; той кажа, што гербавая рыбка Гляўбічаў, Пшэдслаўскіх і Рапасоўскіх была яшчэ да нараджэння Хрыста. Зара з месяцам мае сваё гняздо над Рэйнам у замку Манстэрн, па-славянскаму Лелівай нібыты званым. Божы статак, які ёсць у Кромара, відаць, пры забыцці абраду, які быў у нас, змяніўся на стада, такім жа чынам божы дар поўнасцю перакручаны з небыліцай пра самае добрае пажаданне каралю, які ідзе пад Варну; гэты герб прынесла Шварцу шляхецтва. Вынік паходу вядомы. Кароль загінуў, і ніхто не ўратаваўся. Незабыўна здзейснілася пажаданне. Нягледзячы ні на што, Шварц ужываў для гэтага герб, аднак не першы, бо ён памёр без мужчынскага нашчадства; аднак больш дзесятка сем'яў ужываюць той жа самы знак.

Я ўспомніў пра вынік варнскай бітвы. Доўга яе аплаквала Польшча. Нашы радапісы, якія ўсё бачаць у вясёлкавым святле, хацелі ўказаць, што быццам пасля трыўмфу пад Варнай Рак ішоў з дыпломам шляхціца. Нясецкі, які пісаў у Львове, не ведаў прычыны, чаму "домб", які быў у гербе, папярэдне атрымаў назву "дуб".

Аднак сярод падобнага віру баек і гаворак усе нашы пісьменнікі згаджаюцца, што былі ў нас гербы з дахрысціянскіх часоў, і што ў памяць прыняцця хрысціянства былі даданыя толькі крыжыкі, а пералічэнне такіх гербаў па прычыне сумненняў, боязні апускаліся. Адзін Вацлаў Патоцкі ў 1696 г. асмеліўся сказваць, што герб Лада з'яўляецца старажытным помнікам куміра Лады. Нясецкі ж, часта яго прыводзячы, адносна гэтай думкі маўчыць і замест гэтага падсоўвае свой гістарычны вывад - ад вёскі ў Люблінскім ваяводстве. Адсюль можна лічыць, што нашым езуітам мнагабожжа было вядома лепш, калі яны цураліся яго, бо Кнапскі ў сваім слоўніку слова "iadna", "iadnoњж" не прывёў, а lelek паказваў варварызмам, які нічога не значыць.

Гаворачы пра гербы, якія на працягу вякоў клапатліва песціліся як шляхецкія каштоўнасці, тым не менш, праходзячы праз столькі фанабэрыстых, ілжывых і забабонных рук, паўставалі ў змененым выглядзе. Мы не павінны грэбаваць ніякімі крыніцамі звестак, асабліва айчынных. Давайце даследуем, падымем з іх заслону, аддзелім чужое, якое прыйшло разам з наданнем шляхецкага звання, і пазнейшае, згодна з табліцай Чацкага і згодна з канстытуцыяй; аддзелім на хвіліну крыжыкі як дадатак хрысціянскай руплівасці і ўсё разам пакажам у малюнку. Тады ўбачым пэўную паміж імі сістэму, пэўнае падабенства і часткі: тут адзінкавыя знакі, там – складзеныя і як бы суцэльныя. Тут усе нябесныя свяцілы, якія ўслаўляюцца ў вясковых песнях, і аснова навукі т. зв. Чараўніц; тут зара Ляліва дужа шчаслівая, зара любоўная. Там каўчэг з львамі, увенчаны слупам – у адных, з дадаткам лялівы і сокала – у Дзяконскіх. Здаецца, той самы, на якім князь Мсціслаў Свет Уладзіміравіч плыў па возеру Ільмені да прыгожай Любавы. Дзеўкі з распушчанымі валасамі альбо з намёткай на галаве, ці не будуць яны тымі самымі княгінямі кракаўскімі і княгінямі рускімі, якіх бачым на вяселлях у наш час? Белы конь на чырвоным фоне, ці не той жа самы, аб якім Саксон Граматык у аблозе Архоны гаворыць? Герб пана Задоры – галава ільва, якая пылае полымямі, а таксама тры галавы, ці не нагадваюць яны нам Чарнабога, якога мы бачылі ў Вялікай Сірыі? Адкуль у нашай геральдыцы столькі звяроў і птаства, не адкідваючы ката, зайца, свіней, вожыка, качак і сарок? Якім чынам залацянкі ўвялі столькі палкіх сэрцаў і стольких лебедзяў? А ў іншых месцах – дрэвы, кветкі, травы, грыбы, вужы, рыбы і жабы. Ці можна падумаць, каб усё гэта мела азначаць мужнасць, розум, цноту і заслугі?...

На самай справе былі часы, калі гэтыя прадметы па гэтых знаках вычытваліся. І мы, магчыма, павінны быць найбольш удзячны шчасліваму ўвядзенню ў зман захаванню гэтых старажытных іерогліфаў. З Салюстам Езерскім, калі б той жыў на некалькі вякоў раней, загінуў бы несумненна наш шляхецкі задыяк. Напэўна ў радавым дрэве (starodrzewiu) давалі або выбіралі гэтыя знакі за якую-небудзь дзейнасць і паслугу, аднак без адносін знакаў да асоб. Чэрпалі гэтя рысы з якойсьці кнігі, якая да нас не дайшла, альбо з прыроды, якой пакланяліся, і са славянскіх звычаяў, таксама нам невядомых.

Шкада, што ўжо спыніўся дух, які абараняў шляхецтва, і ніхто ўжо не думае аб дапаўненні збору гербаў, якія прынесены ў дванаццаць вывадовых камісій у заходніх губернях Рускай дзяржавы.

Геральдыка Паўночнай Русі, выдадзеная ў часы Паўла І, ні ў чым не заспакоіла маёй цікавасці; аднак ёсць сляды, што былі пячаткі з каштоўных металаў у часы Ігара, далёка раней да хрысціянства. Дахрысціянскія сцягі, непазбежна прываленыя цяжарам траістага крыжа ў часы Уладзіміра І; не ўратавана іх пазнанскім спосабам праз унію з крыжакамі. Адсюль таксама вялікі каган з'яўляецца нароўні з апосталамі ў ліку святых. Наш Мечыслаў за сем жонак па-старому яшчэ не адпакутваў. У наступных вяках Русь мае досыць пячатак, аднак на іх няма нічога славянскага. Зямля, паны і баяры не ўжывалі сталых і аднастайных гербаў. Дзяўчына з расчасанай па плячах рускай касой, з руцвяным або барвянковым вянком на галаве, якую ўслаўлялі на ўсёй поўначы і поўдні Русі, не мела шчасця стаць адзнакай сваіх прыхільнікаў. Двухгаловае цуда, невядомае славянам, прыляцела з Грэцыі пасля 1490 года і села над Масквой-ракой у часы Івана Васільевіча. Венгры перавярнулі тры знакамітыя ракі і шэсць лілеяў ператварылі на іншыя лічбы і вобраз. Справядліва сказаў наш Мікалай Рэй: "Гэты свет дзіўна калышацца ў сваіх справах".

Літва, прымаючы многае ад Русі у шанаванні багоў, пісьменстве і дзяржаўнай мове, яшчэ на пячатках Вялікага Вітаўта і харугвах пад Грунвальдам указвала такі знак: _/_/. Сапсавала яго і з часам зусім ад яго адмовілася.

Zrcadlo, slavne'ho markrabstvi moravske'ho, у Аламоўцу 1593, было для мяне дапаможнай кнігай. Чаго я не здолеў знайсці ў польскай геральдыцы, а моцна жадаў у адносінах да валынскіх песень, у гэтым люстэрку я набыў. Не ведаў я яшчэ геральдыкі чэшскай і вянгерскай, менавіта славянскіх сем'яў.

Гаспадары малдаўскія ваяводы, якія валодалі берагамі слаўнага у нас Дунаю, правячы краінай святога Багдана (г. зн. Малдавіяй), ужывалі ў дыпламатыі пісьмо і мову славянскую, у якіх была выказана прысяга на вернасць каралю Польшчы. У некаторых актах пулаўскай Сыбілі і ад XV-XVI стст., відаць, сталае ўжыванне на пячатцы вялікай туравай галавы разам з Лялівай. У гэтым краі дагэтуль баяры душэўнасці славянскай, а знешнасці – турэцкай. Усюды можна знайсці нешта славянскае пасля вызвалення ад чужых уплываў і наноснага.

Многа шляхецкіх факелаў у руцэ згасла, і то яшчэ раней, чым падумалі аб іх здзяйсненні. Трэба прагледзець цэрквы, касцёлы, могілкі або па архівах старыя арыгіналы. Бязмерная праца. Лёгкі жарт адразу ад яе знікне, бо тут сцісласці нельга даваць патуранне. Трэба доўга ламаць галаву дзеля старажытных вякоў і не аднойчы злавацца.

Забяспечым сябе выпадковымі і дастаткова частымі адкрыццямі зямлі; гэта розныя малыя статуі, малюнкі і прылады з каштоўных металаў, посуд, начынне, гаршкі з попелам. Палічым і пазнаем пры дапамозе дакладнага вымярэння ўсе вялікія магілы, якія насыпаны ў гонар адной асобы і самотна перажылі вякі. Захаваем ад знішчэння ў падземных пячорах выбітыя на скале графічныя знакі, якія ў большасці нам невядомы. Здымем планы з распалажэнняў месцаў, якія вызначаюцца старадаўняй вядомасцю для тлумачэння старога ста, не дазваляючы ні аднаму ўрочышчу пайсці ў забыццё. Пазнаем усе назвы, якія вясковы люд або яго лякаркі ў розных месцах даюць прыродзе. ***Сабяром колькі можна песень і старажытныя гербы, апішам больш характэрныя абрады. Уключым усё гэта ў адну кнігу і несумненна перакапаем пра наша паходжане з Індыі, або Індастану, і займеем наша ўяўленне аб нашых продках.*** Злучым іх навуку V ст. з асветай і з удзячнасцю ўнукаў, якія ўжо адклікаюцца.

Ніколі не намерваўся пісаць аб гэтым, пакуль не сабяру ўсіх запісаў. Накідаў толькі некаторыя думкі, узятыя з чатырохгадовага майго падарожжа і працы дзеля далейшага яе прызначэння. Прадставіўшы сябе думкай, аддаленай за 9 валамі вякоў, перад аблічам пасівеўшай і паважнай барады нашых продкаў, не мог я ўжо гаварыць без пэўнай павагі для іх і як бы ў іх імя, без пэўнай смеласці, якая, засноўваючыся на добрасумленнай праўдзе, выведзена з адчувальных вынікаў, павінна заўсёды быць адзнакай паўночнай душы.

Пісаў у Сіняве над Санам 1818 г. у месяцы сакавіку

Надрукавана: "Cwiczenia Naukowe", 1818, t. II, nr. 5, s. 3-27; „Pamientnik Lwowski" 1818, t. I, s. 17-48 (перадрук с папраўкамі і дапаўненнямі аўтара). Асобна выдаў: І. Р. Гельцаль: Кракаў, 1835. Змешчаны тут тэкст грунтуецца на "Pamientniku Lwowskim" і кн.: Zorian Dolenga Chodakowski. O Slawianszczyznie przed chrzescianstwem oraz inne pisma i listy. Opracowal i wstempem opatrzyl Julian Manlanka. Warszawa, PWN, 1967. S. 19-38.

**На беларускай мове друкуецца ўпершыню.**

# Шахматная задача ад Папы

***Караль Вайтыла, "RSK", 1946***



*Мат за 3 хады.*

1.Kf3! з пагрозай 2.Kf4+. Калі 1. ... g1Ф+ 2.Kfd4+; і калі 1. ... Л: c7+ 2.К: c7+, і гэтак далей.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 11. 04. 2005 г. у 11.30. Замова № 698.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1340 руб., 3 мес.- 4020руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.